# ЧОРНЫЯ НАВІНКІ

**Атыкул 13.**
П.1. Кожны чалавек мае права свабодна перамяшчацца і выбіраць сабе месца жыхарства ў межах кожнай дзяржавы.
**Артыкул 14.**
П.1. Кожны чалавек мае права шукаць прытулак ад прасьледаваньня ў іншых краінах і карыстацца гэтым прытулкам.
**УСЕАГУЛЬНАЯ ДЭКЛЯРАЦЫЯ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА**



# Нелегальных людзей НЕ БЫВАЕ

# межаў і нацыяналізму

no border no nation caravans 2001



◀ Летнік супраць межаў – змагайся і адпачывай!

актывісты з розных краінаў выдаюць бюлетэні, газэты, улёткі, стыкеры, дзе крытыкуюцца сучасны стан справаў у сьвеце, палітыка глябалізацыі і нэалібэралізму, а таксама межавая палітыка Эўрасаюзу. Але толькі крытыкай гэта не абмяжоўваецца: на старонках гэтых выданьняў можна ўбачыць іншы сьвет – сьвет бязь межаў, сьвет, дзе чалавечая асоба, а ня грошы, адыгрывае галоўную ролю.

Па-другое, гэта арганізацыя антыгранічных летнікаў пратэсту, а таксама дэманстрацыяў і акцыяў прамога дзеяньня. У апошнія тры гады быў вынайшаны новы спосаб антыгранічнага супрацiву – памежныя летнікі пратэсту. Мэтай гэтых летнікаў зьяўляецца прыцяг увагі грамадзкасьці да памежных праблемаў, такіх як жорсткасьць мытных служачых, узмацненьне правілаў пераходу празь мяжу і гэтак далей. У 2000 годзе ў Эўропе прайшло тры такіх летніка. Першы адбыўся на тэрыторыі Польшчы на яе славацка-ўкраінскім памежжы (дарэчы, удзельнікамі гэтага летніку былі і нашыя беларускія таварышы), затым летнікі адбыліся ў Нямеччыне – на нямецка-польскім памежжы, і на ўзьбярэжжы Сыцыліі. Падчас правядзеньня летнікаў адбыліся шматлікія дыскусіі, антыгранічныя акцыі, таксама вялася праца зь мясцовым насельніцтвам. Сёлета такіх летнікаў, і ўвогуле акцый, адбудзецца і ўжо адбылося значна больш. Адзін зь летнікаў адбудзецца на польска-беларускім памежжы (як прыняць у ім удзел глядзіце на 8-ай старонцы «Чорных Навінак»).

У чытача можа ўзьнікнуць пытаньне: маўляў, нямецка-польскае памежжа – усё зразумела – Нямеччына ўваходзіць у ЭС, а Польшча пакуль не, але пры чым тут беларуска-польскае ці ўкраінска-польскае памежжа? Адказ вельмі просты: польскі ўрад жадае ўвайсьці ў Эўрапескі Саюз, але, каб гэта адбылося, ён павінен выканаць некалькі патрабаваньняў ураду ЭС, у тым ліку ўзмацніць межавы рэжым зь не-ЭС краінамі, гэта значыць, увядзеньне візаў для грамадзянаў Беларусі, Украіны, Расеі і іншых не-ЭС краінаў. Усё гэта ня толькі ўскладніць для нас і так нявельмі просты ўезд у Эўропу, але таксама перакрые амаль адзіную крыніцу існаваньня шматлікім дробным гандлярам ■

## Кэмпінг 2001

**2-8 ліпеня** – Тарыфа (Андалузія, Гішпанія)
**4-8 ліпеня** – Пэтышоўцы (Славенія)
**5-12 ліпеня** – Крынкі (Польшча)
**21-24 ліпеня** – Гэнуя (Італія)
**28 ліпеня-5 жніўня** – Франкфурт-на-Майне (Нямеччына)
**24-26 жніўня** – Тыхуана (Мэксыка)

Усю інфармацыю па гэтых летніках вы можаце знайсьці ў Інтэрнэце: **www.noborder.org** – сетка «Межам – не!»



# МІНІЯЦЮРЫ

гэтае мерапрыемства. Цікава, што тыя, хто апынуўся ў скуры «эўрапейцаў», павялі сябе зусім як іхныя прататыпы: большасьць рабіла выгляд, што нічога дурнога не адбываецца і ўсё цалкам натуральна, а астатняя меншасьць на чале з гуртом SCUM OUT задумала правесьці акцыю пратэсту. Падчас свайго выступу яны паміж песьнямі пачалі гарланіць у мікрафон тэксты супраць адміністрацыі клюбу, Эўрасаюзу, УВКБ ААН і неўзабаве былі адключаныя (пасьля другой кампазыцыі). Іншыя гурты ніяк не адрэагавалі на хамскія паводзіны адміністрацыі і, не праявіўшы ніякай салідарнасьці ні з тымі, хто застаўся на вуліцы, ні з камандай пратэстуючых, працягвалі канцэрт – ну ня ўсім жа быць такімі прынцыповымі!

Такім чынам, хрысьціянскія дэмакраты разам з УВКБ ААН і клюбам «4 апельсіны» правялі пасьпяховую акцыю-трэнінг і паказалі, што ні на якую салідарнасьць з уцекачамі разьлічваць у нас не прыходзіцца.

Тусоўка ж паказала, што яна клала нават на сваіх знаёмых і сяброў, не гаворачы ўжо аб якіхсьці уцекачах ці нелегалах. Слоган СЭКС, НАРКОТЫКІ і РОК-Н-РОЛ застаецца асноўным жыцьцёвым прынцыпам для асноўнай большасьці сучаснай моладзі! Добра гэта ці дрэнн – вырашайце самі. А я мяне ўжо дастала быць нелегалам ■

**«Мытня» пільна ахоўвала залю ад музыкаў... ці музыкаў ад залі?** ▼






## Lufthansa – канцавы прыпынак

У маі 1999 году на барту самалёту авіякампаніі Lufthansa загінуў суданскі ўцякач Махамэд Амір Абэб, якога трое нямецкіх афіцэраў паліцыі дэпартавалі зь Нямеччыны ў Судан. Махамэда закавалі ў наручнікі, надзелі на галаву матацыклетны шлем і так уціснулі ў крэсла, што ён ад недахопу паветра задыхнуўся. Сьмерць 30-гадовага ўцекача стала прычынай кампаніі «Нелегальных людзей не бывае», распачатай супраць Lufthansa. Але Lufthansa не адзіная авіякампанія, якая зарабляе грошы на дэпартацыі нелегалаў. Акцыі пратэсту адбываюцца ў Францыі, Бельгіі і Галяндыі супраць такіх авіякампаніяў як Air France, Sabena і KLM.

Кампанія «Нелегальных людзей не бывае» пратэстуе супраць эўрапейскай практыкі дэпартацыі нелегалаў і той вялікай ролі, якую граюць тут авіякампаніі. Акцыі праводзяцца з мэтай прыцягнуць увагу пасажыраў і супрацоўнікаў авіякампаніі да гэтай бесчалавечнай зьявы, а галоўнае – вымусіць Lufthansa і іншыя авіякампаніі, якія займаюцца дэпартацыямі, скончыць гэты антыгуманны бізнэс ■



Гэтак ЭС атрымала першыя краіны-тампоны – «новыя дэмакратыі» Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы. Мэта – стрымліваць уцекачоў як мага бліжэй да рэгіёну іхнага пражываньня, нават калі прымаючыя краіны нядзольныя альбо не жадаюць забясьпечваць выкананьне ўсіх працэдураў разгляду прашэньня аб прытулку і адпаведных правоў. З гэтай жа мэтай пазьней было распрацаванае паняцце «бясьпечнага рэгіёну ўнутры краіны», якое прымяняецца ў дачыненьні да турэцкіх курдаў, а зь нядаўняга часу і да ўцекачоў з Чачэніі.

Вернемся аднак да Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы. Мы, але найбольш – шчасьлівыя кандыдаты на членства ў Эўрасаюзе, выконваем падвойную функцыю. З аднаго боку, ад нас патрабуецца стрымліваць іміграцыю праз мадэрнізацыю тэхнічных сродкаў кантролю межаў (якасьцю якога гэтак ганарацца нашыя памежнікі), пры чым большасьць нашых заходніх суседзяў атрымліваюць на гэта няхілыя пянёндзы ад ЭС. Гэтак, першы «санітарны кардон» (яшчэ адзін брусэльскі нэалягізм) складаецца з вышэйзначаных новых членаў. Як мы гэта ўжо адчуваем на сябе, яны абавязаны паступова зачыняць свае ўсходнія межы прапарцыянальна і ў абмен на большы доступ іхнай прадукцыі і рабочай сілы на адзіны заходнеэўрапейскі рынак. У 1998 годзе пры аўстрыйскім старшынстве быў прыняты Стратэгічны дакумэнт аб палітыцы ЭС адносна міграцый і правоў уцекачоў (СК4-27-ASIM 170, 1.07.1998). У ім адкрыта прапанавалася абумоўліваць эканамічную дапамогу той ці іншай краіне задавальненьнем патрабаваньняў ЭС адносна кантролю іміграцыі. Усе краіны падзяляюцца на некалькі «гатункаў». Першы складаецца з краінаў-удзельніц Шэнгенскай дамовы; другі аб'ядноўвае краіны-кандыдаты, якія павінны паступова набліжаць сваю міграцыйную палітыку да крытэраў Шэнгену (візы, памежны кантроль і дэпартацыі); трэці «гатунак» – гэта мы (краіны былога «саўка», Турцыя і Паўночная Афрыка), якія абавязаны канцэнтраваць свае высілкі на кантролі за транзытам і барацьбе з падпольнай перапраўкай мігрантаў на Захад (чым мы, у адпаведнасьці са статусам, пасьпяхова й займаемся), за што нам абяцаюць «эканамічнае супрацоўніцтва»; нарэшце, краіны апошняга «гатунку» (Блізкі Ўсход, «чорная» Афрыка, Кітай і г.д.) могуць адпачываць. Ад іх чакаецца толькі адно – не выпускаць свой зброд.

У будучыні, як паказваюць апошнія заявы Эўрасаюзу наконт «барацьбы зь нелегаламі», нас чакаюць яшчэ больш арыгінальныя ініцыятывы. Так што нашым нацыянальна-сьвядомым «эўрапейцам» трэба было б добра задумацца, перш чым патрабаваць дэпартацыі «ўсходніх нелегалаў» у Расею. Альбо рэалізацыя лёзунгу «Беларусь ў Эўропу» магчымая толькі пасьля прымусовага выкарыстаньня нашай краіны ў якасьці таннага гігіенічнага сродку. Дзякуй, што не туалетнай паперы... ■

## Жэнэўская Канвэнцыя і іншыя дакумэнты

Мадэль міжнародных дзеяньняў у абарону ўцекачоў была ўсталяваная Лігай Нацыяў і прывяла да прыняцьця цэлага шэрагу міжнародных пагадненьняў па гэтаму пытаньню: пагадненьні ад 12 мая 1926 году і 30 чэрвеня 1928 году, Канвэнцыі ад 28 кастрычніка 1933 году і 10 лютага 1938 году. Хутка пасьля другой сусьветнай вайны наўзамен спэцыяльных дакумэнтаў, якія адносіліся да асаблівых катэгорыяў уцекачоў, было вырашана выпрацаваць адзіны дакумэнт, што зьмяшчае агульнае вызначэньне асобаў, якіх трэба лічыць уцекачамі.

Канвэнцыя аб статусу ўцекача была прынятая на Канфэрэнцыі паўнамоцных прадстаўнікоў Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў 28 ліпеня 1951 году і ўступіла ў дзеяньне 21 красавіка 1954 году. На сёньняшні момант Жэнэўская Канвэнцыя 1951 году і Пратакол да яе 1967 году падпісаныя больш чым ста краінамі сьвету і зьяўляюцца асноўнымі міжнароднымі дакумэнтамі, якія вызначаюць і рэгулююць прававое палажэньне ўцекачоў ■

# ПРАПІСКІ

месца жыхарства, працу і, урэшце, перастаць валацужнічаць, інакш яны будуць выдаленыя з краіны. Максымілян І у 1500 годзе загадаў усім цыганам зьехаць зь ягонай краіны. Тых, хто застаўся, чакалі турма ці сьмяротная кара.

У XVI стагодзьдзі ў розных эўрапейскіх краінах зьяўляюцца законы, якія забараняюць «цыганскі» лад жыцьця. Пад гэтую катэгорыю трапляюць ня толькі цыгане, але ж і іншыя людзі, якія менш арганізавана вандравалі па Эўропе ў пошуках лепшага жыцьця. Эміграваць зь месца на месца становіцца вельмі небясьпечна. Дарогі сярэднявечнай Эўропы час ад часу былі ўвешаныя трупамі «бадзягаў». Бадзягай мог стаць любы прадстаўнік ніжэйшага саслоўя, які вандраваў, напрыклад, у пошуках працы. Людзей, якія па нейкіх прычынах не пасьпелі ці ня мелі жаданьня ўсталявацца на адным месцы, высылалі на іншыя кантынэнты. Вялікую колькасьць цыганаў, напрыклад, чакалі Афрыка і Амэрыка.

Каб ня быць аднабаковым, трэба адзначыць, што тыя самыя манархі час ад часу самі запрашалі «эмігрантаў». Гэта вельмі падобна да таго, як сёньня разьвітая Эўропа запрашае да сябе навуковых спэцыялістаў. Напрыклад, Ягайла запрасіў у Вялікае Княства Літоўскае татараў, якія і па сёньняшні дзень жывуць у Іўеўскім раёне, а каралі польскія запрашалі габрэяў для падняцьця гандлю. Але ж эксплюатуючы эмігрантаў, трэба было трымаць іх пад кантролем. Кацярына, імпэратрыца расейская, выдае загад аб межы аседласьці для габрэяў. Габрэі, якія прыяжджалі на тэрыторыю Расейскай імпэрыі, павінны былі сяліцца толькі ў памежных гарадах і ня мелі права набываць зямлю. Эмігранты з прычыны іншаверства абкладаліся дадатковымі падаткамі і не маглі карыстацца ўсімі правамі грамадзяніна. Самае сьмешнае, што антыэміграцыйная палітыка ўладаў у працэсе сваёй эвалюцыі ператварылася ў замацаваньне чалавека на нейкім адным месцы. І ідучы яшчэ далей, улады пачалі забараняць міграцыю ўнутры самой дзяржавы. Прыкладам можа быць пашпартная сыстэма Савецкага Саюзу, калі ў сталінскія часы людзі зь вёскі (якая ў дадзеным выпадку нагадвае сёньняшнюю краіну трэцяга сьвету) не маглі перабрацца ў горад. І нават калі гэтыя загады былі зьнятыя, засталіся гарады, у якія і сёньня грамадзяне той самай краіны ня могуць свабодна ўехаць – напрыклад, Масква.

Палітыка ўтрымальня чалавека на адным месцы, нарадзілася ня сёньня, і мэта яе вельмі простая: «Чым менш халоп ведае, чым менш альтэрнатываў бачыць, тым спакайней сьпіць пан» ■

# Чужыя сярод чужых

# Нелегальны сусьвет

**МЭКСЫКА**
**З**а 2000 год амэрыканска-мэксыканскую мяжу перайшлі 320 млн. чалавек. Міграцыя замежных латынасаў у Мэксыку на сельска-гаспадарчыя работы дасягае 1 млн. у год, у тойсама час як мэксыканцы ўяжджаюць на сельска-гаспадарчыя работы ў Канаду.

**КАНАДА**
**З**-за перапаўненьня Канады ўрачамі, многія зь іх імігруюць у ЗША. За апошні год кожныя тры дні ўяжджалі 2 мэдыка.

**КАЛУМБІЯ**
**Г**рамадзянская вайна, эканамічны крызыс раскідалі калумбійцаў па ўсяму сьвету: ЗША, Эквадор, Канада, Гішпанія, Коста-Рыка.

**САЛЬВАДОР**
**6,1** млн. сальвадорцаў жывуць на радзіме, 1,5 млн. – у ЗША. У Сальвадоры 229 фабрыкаў, на якіх 80% працоўных – гэта жанчыны з маленькім заробкам і без працоўных кантрактаў. Мужчынам жа застаецца беспрацоўе.

**ДАМІНІКАНСКАЯ РЭСПУБЛІКА**
**Н**асельніцтва 8,5 млн і Валавы Ўнутраны Прадукт (ВУП) 20 більёнаў USD, краіна багацейшая за Гаіці, таму рэгулярныя дэпартацыі гаіцянцаў дадому. Гаіцянцы прыяжджаюць працаваць на цукравыя і кававыя плянтацыі, каля 500 тыс. чалавек жывуць нелегальна. Дамініканская канстытуцыя дае аўтаматычнае грамадзянства дзецям, якія былі народжаныя ў краіне, таму гаіцянцы арганізоўваюць г.зв. «родавыя» туры цяжарным. Дамініканцам не патрэбная віза ў Японію, і яны зарабляюць тым, што прадаюць сваё паходжаньне.

**АРГЕНТЫНА**
**У** маі прайшоў бум пададзеных пашпартоў на эміграцыю ў Эўропу. Больш 50% аргентынцаў, калі будзе магчымасьць, хочуць іміграваць – у асноўным гэта людзі ва ўзросьце 30-42 гады.

**НЯМЕЧЧЫНА**
**У**цекачы пратэстуюць супраць закону аб пражываньні, які роўны закону ў часы гета: яны павінны пражываць у строга вызначаным месцы, пакідаць якое могуць толькі пры спэцыяльным дазволе ўладаў. Дзякуючы бюракратыі, працэс легалізацыі цягнецца ад 3 да 10 гадоў. Людзі, якія зьбеглі ад турмы, рэпрэсіяў, аказваюцца зачыненымі ў адным раёне – тая самая турма, толькі ў большых памерах.

**ПОЛЬШЧА**
**У** той час як палякі езьдзяць зарабляць на сэзонныя сельска-гаспадарчыя работы ў Нямеччыну, польскія фэрмэры наймаюць на работу больш танных украінцаў.

**РУМЫНІЯ**
**Ш**тогод каля 1 млн. нелегалаў перасякаюць Румынію, уцякаючы на Захад.

**ЛІБІЯ**
**Ц**елы 93 мігрантаў, уключаючы 61 зь Нігерыі, былі знойдзеныя на паўднёвым усходзе Лібіі ў сярэдзіне мая. Людзі патрапілі на памежны пост, павярнулі назад, але толькі 25 здолелі выйсьці адтуль. Калі б не было гэтай мяжы, усе яны засталіся бы ў жывых.

**ГАЛЯНДЫЯ**
**К**аб ня блытаць імігрантаў з Афра-Азіяцкага рэгіёну, вырашана адсканаваць іхную радужную абалонку вачэй і зьмесьціць на спэцыяльную ідэнтыфікацыйную карту. Гэтак урад хоча вырашыць эўрапейскую праблему «усе кітайцы на адзін твар». Абмяркоўваецца праект па ўзмацненьню ўмоваў прадстаўленьня палітычнага прытулку непаўнагадовым уцекачам – прапануоўваецца допытваць іх, каб высьвятліць сапраўдныя мэты іхных бацькоў на эміграцыю. У выніку такой палітыкі бацькі яшчэ больш будуць запужваць дзяцей жахамі і вучыць іх маніць, каб застацца ў краіне, дзе ёсьць магчымасьць жыць.

## БЕЛАРУСЬ: уцекачам паўсюль

Згодна з законам Рэспублікі Беларусь «Аб уцекачах» ад 1995 году, уцякач – гэта «асоба, якая не зьяўляецца грамадзянінам Рэспублікі Беларусь і знаходзіцца на тэрыторыі ў сілу дастаткова абаснаваных асьцярогаў стаць ахвярай прасьледаваньня ў краіне сваёй грамадзянскай прыналежнасьці па прызнаку расы, рэлігіі, грамадзянства, нацыянальнасьці, прыналежнасьці да пэўнай сацыяльнай групы альбо палітычных меркаваньняў і якая ня можа ці не жадае ў выніку такіх асьцярогаў карыстацца абаронай гэтай краіны; альбо асоба, якая ня маючы сталага грамадзянства і, знаходзячыся на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь у выніку падобных абставінаў, ня можа ці не жадае вярнуцца ў краіну свайго папярэдняга звычайнага месцажыхарства ў сілу такіх асьцярогаў». Аднак далёка ня кожны, хто на наш погляд падыйшоў бы пад гэтую фармулёўку, можа атрымаць у нас статус уцекача. Лёс чалавека тут вырашаюць тэрытарыяльныя аддзяленьні Дзяржаўнай

міграцыйнай службы Рэспублікі
выступаюць зусім не на ягоным
Па становішчу на канец сакавіка
531 чалавек атрымаў афіцыйны
па прыкладных падліках на тэры
знаходзіцца больш за 13 тыс. ча
падыходзяць пад паняцьце «ўця
нелегальна. У 2000 годзе 169 чал
зарэгістраваныя, а 219 адмовілі
Абскарджаньне адмовы праз суд
прыносіць пладоў і пры гэтым п
вялікіх для яго грошаў (па 5 мін.
дарослага члена сям'і толькі за п
гэткая сума для некаторых прост
чалавек толькі аказваецца ў Бела
найчасьцей амаль нічога няма, б
часу прадаць кватэру альбо маш
быць, калі бяжыш – губляеш усё.
Асноўная маса уцекачоў на тэры
афганцы. Зараз кожны ведае, што




# сюль у нас дарога – будзе вам і дом, і дапамога

Рэспубліцы Беларусь, а яны
на ягоным баку.
ец сакавіка 2001 году ў Беларусі
афіцыйны статус уцекача. Але
ках на тэрыторыі рэспублікі
13 тыс. чалавек, якія
нцьце «ўцякач», амаль усе –
дзе 169 чалавек былі афіцыйна
9 адмовілі ў рэгістрацыі.
вы праз суд амаль ніколі не
ры гэтым патрабуе ад уцекача
ў (па 5 мін. заробкаў з кожнага
толькі за прашэньне ў суд),
орых проста не рэальная. Калі
ецца ў Беларусі ў яго
ога няма, бо калі бяжыш, няма
альбо машыну, якіх можа і ня
ubляеш усё.
юў на тэрыторыі Беларусі – гэта
ы ведае, што ў Афганістане ідзе

вайна, але нашыя ўлады, мяркуючы па усім, ня згодныя з гэтым. У 2000 годзе 88 афганцаў атрымалі адмову ў рэгістрацыі (пры 93 зарэгістраваных), чыноўнікам абыякава тое, што ў выпадку вяртаньня гэтых людзей хутчэй за ўсё чакае сьмерць, яны ня лічаць іх уцекачамі. 49 чалавек з Чачэніі таксама атрымалі адмоўны адказ. Беларускія ўлады ўвогуле не рэгіструюць у якасьці ўцекачоў грамадзянаў «брацкай Расеі», бо афіцыйна ў усходняга суседа ўсё добра і ніякай вайны няма і не было.
Як мы ўбачылі, афіцыйных уцекачоў у нас ня шмат, але большасьць нелегалаў не зьбіраецца прасіць статус уцекача на Беларусі, яны жадаюць трапіць на Захад. Сярод гэтых людзей ёсьць тыя, хто бяжыць ад вайны ці рэпрэсіяў, але пераважная большасьць уцякае ад голаду і холаду, ад эксплюатацыі і цяжкіх умоваў жыцьця, шукаючы лепшай долі для сваіх дзяцей...
Няма статыстыкі па гэтых людзях. Ніхто ня ведае дакладных лічбаў. Але аб гіганцкіх маштабах гэтай людзкой плыні можна лічыць па тым, што вакол нелегальнага пераходу мяжы ўжо сфармаваўся свой бізнэс. Людзей правозяць у багажніках аўтамабіляў, у вялікіх фурах пад таварам, праз спэцыяльныя падкопы пад мяжой, але найчасьцей проста даючы «на лапу» мытніку ці пагранцу. У гэтым бізнэсе людзі – гэта такі сама тавар, як гарэлка ці цыгарэты. Вядомыя выпадкі, калі нелегалы паміралі ў багажніках аўтамабіляў ад недахопу паветра. Калі чалавека ловяць у момант нелегальнага пераходу праз мяжу, ён апыноўваецца ў турме. Па беларускаму заканадаўству незаконны пераход мяжы – гэта крымінал. Таму нашыя і без таго перапоўненыя турмы, папаўняюцца пасутнасьці ні ў чым не вінаватымі людзьмі. Менавіта з-за гэтага людзі хаваюцца ад уладаў і існуюць літаральна ў падпольлі. Мяжа – гэта ня толькі праблема нелегалаў, мяжа – гэта праблема грамадзтва ■




# Супраць

«Супраць межаў – Супраць нацыяналізму – Нелегальных людзей не бывае!» – пад гэткім лёзунгам праходзіць у гэтым годзе агульнаэўрапейскі караван супраць межавай і іміграцыйнай палітыкі Эўрапейскага Саюзу. Падчас гэтага каравану ўлетку і ўвосені па ўсёй Эўропе пройдуць шматлікія культурныя і палітычныя акцыі, якія ставяць сваёй мэтай прыцягнуць увагу людзей да праблемаў глябалізацыі і іміграцыйнай палітыкі Эўрапейскага Саюзу.

З кожным годам ўсё больш людзей выказваюць сваю нязгоду і занепакоенасьць тым, што Эўропаператвараецца ў крэпасьць, агароджаную новай жалезнай заслонай. Жыхарам краінаў, што не ўваходзяць у Шэнгенскую дамову ці Эўрапейскі саюз, усё цяжэй і цяжэй атрымаць дазвол на ўезд, не гаворачы ўжо пра тое, каб атрымаць від на жыхарства. Такая палітыка ўрадаў абмяжоўвае правы чалавека на свабодны выбар месца жыхарства, свабодны рух, а таксама правакуе рост нацыяналістычных і расісцкіх настрояў у грамадзтве.

Усе гэтыя нэгатыўныя тэндэнцыі прывялі да неабходнасьці аб'яднаньня лявацкіх і антырасісцкіх арганізацыяў у агульнаэўрапейскі рух супраць межаў і дэпартацыі. Пачатак гэтаму аб'яднаньню быў пакладзены ў кастрычніку 1999 году, калі падчас



◀ Беларускія палітычная ўцекачы ў Празе (Чэхія).

правядзеньня саміту кіраўнікоў урадаў краінаў Эўрапейскага Саюзу ў Тампэры (Фінляндыя) быў праведзены контарсаміт і контардэманстрацыя, што асуджалі межавую, дэпартацыйную і эканамічную палітыку Эўрасаюзу. «Больш кантролю, больш абмежаваньняў, больш дэпартацыяў», – гэтак ахарактарызавалі палітыку ЭС удзельнікі контарсаміту.

Затым, у студзені 1999 году ў Амстэрдаме адбылася першая сустрэча антыгранічных актывістаў. На ёй былі прадстаўнікі груповак з Францыі, Італіі, Вялікабрытаніі, Нідэрляндаў, Швайцарыі, Даніі, Бэльгіі, Нямеччыны і Польшчы. Другая сустрэча аб'яднанага агульнаэўрапейскага супрацьмежавага руху адбылася ўлетку 2000 году ў Познані (Польшча), дзе да гэтай ініцыятывы далучыліся ўкраінскія і гішпанскія актывісты. Такім чынам, аб'яднаная агульнаэўрапейская антыгранічная сетка пачала дзейнічаць. А ў 2001 годзе да ейнай дзейнасьці далучыліся групы зь Беларусі і Расеі.

Але ж ня трэба думаць, што антыгранічны і антыдэпартацыйны рух пачаўся толькі тры гады таму – гэта ня так. У 1999 годзе ўтварылася толькі аб'яднаная міжнародная сетка, у якую ўваходзяць шматлікія антырасісцкія і лявацкія групы са шматлікіх эўрапейскіх і ня толькі краінаў сьвету. А асобныя акцыі і ініцыятывы праходзяць па ўсім сьвеце ўжо даволі даўно. Напрыклад, ініцыятыва «Нелегальных людзей не бывае» існуе ўжо шмат гадоў і на ейным ліку не адзін дзясятак акцыяў. Але ж вернемся да міжнароднай антыгранічнай сеткі. Яе дзейнасьць разьвіваецца ў дзвюх асноўных напрамках. Па-першае, гэта арганізацыя міжнародных кампаніяў пратэстаў і распаўсюд інфармацыі: актывісты арганізуюць кампаніі супраць кантораў, якія нажываюцца за лік дэпартацыяў і ператварылі гэта ў сапраўдны бізнэс, такісамы як і правоз нелегальных імігрантаў. Гэтаму бесчалавечнаму бізнэсу павінен прыйсьці канец! Таксама шматлікія



# Эўропа ў

20 чэрвеня на базе клюбу «4 апельсіны», што знаходзіцца ў падвале ДК МТЗ, адбыўся трэнінг для моладзі Менску «Што такое праблема ўцекачоў у Эўропе». Акцыя была добра замаскіраваная. Да самага пачатку ўсе меркавалі, што гэта звычайны канцэрт. Дзіўным было толькі тое, што ніхто ня ведаў, хто і на якія грошы яго ладзіць (уваход на канцэрт быў бясплатным). Але на гэта зьвярнулі ўвагу толькі самыя заўзятыя аматары халявы. Асноўная ж маса звычайных тусоўшчыкаў ні аб чым не здагадвалася. Менавіта на гэта разьлічвалі арганізатары, а гэта былі не якія-небудзь рокеры ці панкі, а самі бязгрэшныя хрысьціянскія дэмакраты! Праўду кажучы, грошы яны ўзялі не з уласных фондаў, а з грошаў УВКБ ААН, але ж гэта не істотна – уцекачы пераб'юцца.

Чуткі аб тым, што будзе халяўны канцэрт, вельмі хутка расплыліся па гораду. І ўжо за 10 хвілінаў да пачатку на пляцоўцы перад уваходам сабралося чалавек 100 – на самой справе, столькі тусоўшчыкаў разам я ня бачыў ужо даўно. Нішто не прадказвала дурнога. І вось хтосьці сказаў, што ўжо пачалі граць. Народ пачаў уваходзіць. Я таксама трапіў у памяшканьне, але ўбачыўшы, што каманда яшчэ толькі настройваецца, выйшаў з падвалу на вуліцу. Гэта была асноўная стратэгічная памылка, і я ня быў адзіным, хто яе зрабіў.

Неўзабаве трэнінг пачаўся. Ужо калі пачала граць другая банда, ахова на чале з галоўным адміністратарам клюбу раптам перакрыла ўваход. «Вы лішнія. Заля аплочаная толькі на 50 чалавек», – заявілі яны. Вось гэта і была асноўная «фішка» мерапрыемства! Арганізатары ўдала імітавалі Эўропу ў паменшаным памеры. Тыя, хто трапіў у залю, сымбалізавалі сабой «цывілізаваных» эўрапейцаў, а тыя, хто застаўся на сьвежым паветры, – «брудных» нелегалаў. Цікава, што сярод апошніх апынуліся нават некалькі музыкаў (потым іх прапусьцілі). Спачатку народ спрабаваў скандаліць, а потым, зразумеўшы, што з гэтага нічога не атрымаецца, пачаў намагацца па-ціху прапіхнуцца ў залю нелегальна. Толькі невялікая кучка адмарозкаў, якія аказаліся задужа прынцыповымі (сярод іх быў і я), адмовіліся ад спробаў усё ж прайсьці і байкатавалі

# Межаў і нацыяналізму

no BORDER
no NATION
caravans 2001



◀ **Летнік супраць межаў – змагайся і адпачывай!**

актывісты з розных краінаў выдаюць бюлетэні, газэты, улёткі, стыкеры, дзе крытыкуюцца сучасны стан справаў у сьвеце, палітыка глябалізацыі і нэалібэралізму, а таксама межавая палітыка Эўрасаюзу. Але толькі крытыкай гэта не абмяжоўваецца: на старонках гэтых выданьняў можна ўбачыць іншы сьвет – сьвет бязь межаў, сьвет, дзе чалавечая асоба, а ня грошы, адыгрывае галоўную ролю.
Па-другое, гэта арганізацыя антыгранічных летнікаў пратэсту, а таксама дэманстрацыяў і акцыяў прамога дзеяньня. У апошнія тры гады быў вынайшаны новы спосаб антыгранічнага супрацiву – памежныя летнікі пратэсту. Мэтай гэтых летнікаў зьяўляецца прыцяг увагі грамадзкасьці да памежных праблемаў, такіх як жорсткасьць мытных служачых, узмацненьне правілаў пераходу праз мяжу і гэтак далей. У 2000 годзе ў Эўропе прайшло тры такіх летніка. Першы адбыўся на тэрыторыі Польшчы на яе славацка-ўкраінскім памежжы (дарэчы, удзельнікамі гэтага летніку былі і нашыя беларускія таварышы), затым летнікі адбыліся ў Нямеччыне – на нямецка-польскім памежжы, і на ўзьбярэжжы Сыцыліі. Падчас правядзеньня летнікаў адбыліся шматлікія дыскусіі, антыгранічныя акцыі, таксама вялася праца зь мясцовым насельніцтвам. Сёлета такіх летнікаў, і ўвогуле акцый, адбудзецца і ўжо адбылося значна больш. Адзін зь летнікаў адбудзецца на польска-беларускім памежжы (як прыняць у ім удзел глядзіце на 8-ай старонцы «Чорных Навінак»).
У чытача можа ўзьнікнуць пытаньне: маўляў, нямецка-польскае памежжа – усё зразумела – Нямеччына ўваходзіць у ЭС, а Польшча пакуль не, але пры чым тут беларуска-польскае ці ўкраінска-польскае памежжа? Адказ вельмі просты: польскі ўрад жадае ўвайсьці ў Эўрапескі Саюз, але, каб гэта адбылося, ён павінен выканаць некалькі патрабаваньняў ураду ЭС, у тым ліку ўзмацніць межавы рэжым зь не-ЭС краінамі, гэта значыць, увядзеньне візаў для грамадзянаў Беларусі, Украіны, Расеі і іншых не-ЭС краінаў. Усё гэта ня толькі ўскладніць для нас і так нявельмі просты ўезд у Эўропу, але таксама перакрые амаль адзіную крыніцу існаваньня шматлікім дробным гандлярам ■

## Кэмпінг 2001

**2-8 ліпеня** – Тарыфа (Андалузія, Гішпанія)
**4-8 ліпеня** – Пэтышоўцы (Славенія)
**5-12 ліпеня** – Крынкі (Польшча)
**21-24 ліпеня** – Генуя (Італія)
**28 ліпеня-5 жніўня** – Франкфурт-на-Майне (Нямеччына)
**24-26 жніўня** – Тыхуана (Мэксыка)

Усю інфармацыю па гэтых летніках вы можаце знайсьці ў Інтэрнэце: **www.noborder.org** – сетка «Межам – не!»



# МІНІЯЦЮРЫ

гэтае мерапрыемства. Цікава, што тыя, хто апынуўся ў скуры «эўрапейцаў», павялі сябе зусім як іхныя прататыпы: большасьць рабіла выгляд, што нічога дурнога не адбываецца і ўсё цалкам натуральна, а астатняя меншасьць на чале з гуртом SCUM OUT задумала правесьці акцыю пратэсту. Падчас свайго выступу яны паміж песьнямі пачалі гарланіць у мікрафон тэксты супраць адміністрацыі клюбу, Эўрасаюзу, УВКБ ААН і неўзабаве былі адключаныя (пасьля другой кампазыцыі). Іншыя гурты ніяк не адрэагавалі на хамскія паводзіны адміністрацыі і, не праявіўшы ніякай салідарнасьці ні з тымі, хто застаўся на вуліцы, ні з камандай пратэстуючых, працягвалі канцэрт – ну ня ўсім жа быць такімі прынцыповымі!
Такім чынам, хрысьціянскія дэмакраты разам з УВКБ ААН і клюбам «4 апельсіны» правялі пасьпяховую акцыю-трэнінг і паказалі, што ні на якую салідарнасьць з уцекачамі разьлічваць у нас не прыходзіцца. Тусоўка ж паказала, што яна клала нават на сваіх знаёмых і сяброў, не гаворачы ўжо аб якіхсьці уцекачах ці нелегалах. Слоган СЭКС, НАРКОТЫКІ і РОК-Н-РОЛ застаецца асноўным жыцьцёвым прынцыпам для асноўнай большасьці сучаснай моладзі! Добра гэта ці дрэнн – вырашайце самі. А я мяне ўжо дастала быць нелегалам ■

**«Мытня» пільна ахоўвала залю ад музыкаў... ці музыкаў ад залі?** ▼






## Lufthansa – канцавы прыпынак

У маі 1999 году на барту самалёту авіякампаніі Lufthansa загінуў суданскі ўцякач Махамэд Амір Абэб, якога трое нямецкіх афіцэраў паліцыі дэпартавалі зь Нямеччыны ў Судан. Махамэда закавалі ў наручнікі, надзелі на галаву матацыклетны шлем і так уціснулі ў крэсла, што ён ад недахопу паветра задыхнуўся. Сьмерць 30-гадовага ўцекача стала прычынай кампаніі «Нелегальных людзей не бывае», распачатай супраць Lufthansa. Але Lufthansa не адзіная авіякампанія, якая зарабляе грошы на дэпартацыі нелегалаў. Акцыі пратэсту адбываюцца ў Францыі, Бельгіі і Галяндыі супраць такіх авіякампаніяў як Air France, Sabena і KLM.
Кампанія «Нелегальных людзей не бывае» пратэстуе супраць эўрапейскай практыкі дэпартацыі нелегалаў і той вялікай ролі, якую граюць тут авіякампаніі. Акцыі праводзяцца з мэтай прыцягнуць ўвагу пасажыраў і супрацоўнікаў авіякампаніі да гэтай бесчалавечнай зьявы, а галоўнае – вымусіць Lufthansa і іншыя авіякампаніі, якія займаюцца дэпартацыямі, скончыць гэты антыгуманны бізнэс ■

